SOS!

## Сэрцы просяць паратунку

На экране переважаюць баевікі, серыялы, музычная "папса". Многія, як я ведаю, часта выключаюць тэлевізары. Цікавей і карысней прачытаць добрую кнігу, заняцца хатнімі справамі ці адправіцца на прагулку. Лепш не чуць і не бачыць прымітыўныя, шэрыя кінафільмы, дзікую музыку, вар'яцкія крыкі, лямант...

Паглядзіце толькі на назвы фільмаў у тэлепраграмах: "Она написала убийство", "Убойная сила", "В постели с убийцей", "Особо тяжкие преступления"... А выканаўцы песень... Многія крычаць, быццам настаў канец свету, з выццём, віскам крыўляннем, нібы іх ухапілі за нейкае балючае месца. А знешні выгляд? Адны — няголеныя, зарослыя, а іншыя, наадварот, з голымі жыватамі. Не, гэта не ўменне вольна трымацца на сцэне, а хваравітая прэтэнзія на нейкую моду, сведчанне нізкай культуры, поўнае неразуменне мастацтва, адсутнасць прафесіяналізму.

Разгул "папсы" — з'ява не толькі непрыемная, але і шкодная. Згубна дзейнічае шэрасць на экранах тэлевізараў на моладзь, на падлеткаў. Усё больш трапляюцца яны на вуліцах, у грамадскіх месцах "пад мухай". Расце сярод іх злачыннасць, зніжаецца маральнасць. Няўжо не бачаць гэтага ў адпаведных міністэрствах, ведамствах?

Безумоўна, ёсць на тэлебачанні і станоўчае. Але чаму амаль не відаць і не чуваць Яраслава Еўдакімава, Надзеі Чапрагі, Сафіі Ратару. Пабольш бы іх канцэртаў і добрых, мілагучных песень.

Не шкодзіць пераняць прыклад Польшчы. Там па тэлебачанні апошнім часам усё больш гучаць змястоўныя песні, перадаюцца канцэрты, у якіх адлюстроўваюцца разнастайныя, высакародныя чалавечыя пачуцці, мары. Шкада, што польскае тэлебачанне можна бачыць у асноўным у Гродзенскай і Брэсцкай абласцях. Хацелася б і на нашым тэлеэкране часцей бачыць і слухаць перадачы на гістарычныя тэмы аб Беларусі і яе суседзях, на тэмы аграбізнесу, агратурызму.

Слушна сказана: "Прыгажосць выратуе свет". А мастацтва — адно з важнейшых здабыткаў прыгажосці. Вось чаму тэлебачанне і радыё павінны стаць змястоўнымі, цікавымі, карыснымі. Тады цікавейшым і багацейшым стане жыццё нашай Айчыны.

**Пётр ПУТРА.**

*Гродна.*

КРИМИНАЛ

## Выбивали долг — получили сроки

Идущего среди белого дня в магазин жителя областного центра пригласили в "девятку" для срочного разговора двое наглядно знакомых мужчин. Севшего на заднее сиденье П. с двух сторон потеснили коротко стриженые "качки". Уже за городом, на берегу реки Сож ничего не понимающему П. объяснили — тот должен сто "баксов" за взятый его племянником и не возвращенный долг. Для пущей убедительности в область лица П. нанесли несколько ударов, на языке судмедэкспертов, причинив "легкие телесные повреждения". Отобрав золотую цепочку с крестиком, перстень и престижный "Ориент", гостя вытолкали из машины, включив счетчик.

Вернувшийся пешком в город, избитый потерпевший первым делом попросил защиты у стражей порядка. Те, глядя на лицо пострадавшего и без судмедэкспертизы убедившись в серьезных последствиях выезда на природу, принялись за дело — к вечеру криминальный квартет был доставлен в Новобелицкий РОВД и начал давать показания. Отобранное имущество вернулось к законному владельцу.

За противоправные действия "браткам" пришлось отвечать по закону — против них возбудили уголовное дело по части 2 статьи 384 Уголовного кодекса — за принуждение к выполнению обязательств с применением насилия организованной группой.

Недавно 40-летних Валентина Бобова и Петра Ключинского суд Новобелицкого района Гомеля отправил на пять лет в исправительную колонию усиленного режима. Отпрыск последнего, 18-летний Вячеслав, там же проведет три года. Его ровесник Денис Бурковский заработал три года вольного поселения.

Кстати — долг в сумме двадцать тысяч рублей племянник потерпевшего возвратил еще до вывоза дяди на природу.

**Михаил ОГОНЬКОВ.**

АДКРЫТЫМ ТЭКСТАМ

# Хочаце жыць годна?

— Ну хто ж гэтага не хоча? — скажаце вы. — Кожны марыць аб ім.

Калі так, дык давайце задумаемся: што ж гэта такое — годнае жыццё? Спецыялісты вылучаюць тры яго складаемыя: годная праца, добры заробак і жаданне адстойваць свае правы на яго. Дарэчы, такое права зафіксавана ва Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека. У гэтым, бадай, самым важным дакуменце планеты сказана, што *"кожны чалавек мае права на такі жыццёвы ўзровень, уключаючы харчаванне, вопратку, жыллё, медыцынскую дапамогу, неабходнае сацыяльнае абслугоўванне, якія неабходны для падтрымання здароўя і дабрабыту яго самога і яго сям'і"*.

А цяпер зірнём на тое, як ажыццяўляюцца гэтыя тры складаемыя годнага жыцця ў нас на Беларусі. Пачнём з працы. Калі верыць статыстыцы, дык тут нібыта, кажучы па-амерыканску, поўны "о'кей", ці па-нашаму — усё ў парадку. Беспрацоўе ў межах усяго трох працэнтаў, што нямнога. А як на самай справе? Вядома ж, што некаторыя працуюць далёка не поўны дзень, другія бываюць у вымушаных адпачынках. А хто ўлічвае беспрацоўных у вёсцы? Лічыцца чалавек калгаснікам — значыць, працуе. А тое, што ён выходзіць на працу 5—6 дзён у месяц і зарабляе 10—15 тысяч рублёў — ці ж такога чалавека можна лічыць працуючым?

Сур'ёзна праблема беспрацоўя прааналізавана ў Нацыянальнай справаздачы "Чалавечы патэнцыял Беларусі: эканамічныя выклікі і сацыяльныя адказы", падрыхтаванай пры садзейнічанні прадстаўніцтва ААН групай вядучых спецыялістаў краіны. У гэтым дакуменце гаворыцца: *"Даныя выбарчага абследавання хатніх гаспадарак сведчаць аб тым, што ўзровень беспрацоўя дасягнуў 7,4 працэнта, што амаль у 2,5 раза перавышае афіцыйна рэгіструемую статыстыку"*. Да таго ж сацыяльная дапамога беспрацоўным даволі нязначная, яна складае толькі 8 працэнтаў сярэдняй зарплаты. Так што немалы слой грамадзян не мае па сутнасці, амаль ніякіх сродкаў для існавання.

Беспрацоўе ёсць амаль паўсюдна. Але ў вядучых краінах створана сістэма перападрыхтоўкі тых, хто страціў працу. Людзі маюць магчымасць авалодваць сучаснымі прафесіямі і ўладкоўвацца на годную прэстыжную працу. Такім чынам, беспрацоўе там падштурхоўвае работніка не адставаць ад часу, павышаць сваю кваліфікацыю і гэтым самым паскараць прагрэс. У нас жа стаіць задача ўладкаваць беспрацоўнага на любую працу, хаця б месці вуліцу. Склалася вялікая дыспрапорцыя попыту і прапановы. Амаль 80 працэнтаў вакансій — на рабочыя спецыяльнасці, а сярод тых, хто страціў працу, кожны трэці — спецыяліст. Словам, патрэбны муляры і кранаўшчыкі, а шукаюць працу бухгалтары і юрысты.

Востра стаіць праблема беспрацоўя сярод моладзі. У той жа справаздачы гаворыцца, што яго ўзровень складае 47 працэнтаў, што кожны чацвёрты беспрацоўны ва ўзросце да 30 гадоў — выпускнік сярэдняй школы, што гарантаванае рабочае месца мае толькі кожны пятнаццаты выпускнік вышэйшай навучальнай установы.



Што ж атрымліваецца? Толькі атрымаўшы дыплом, спецыяліст павінен тут жа перавучвацца, набываць новую спецыяльнасць, тую, у якой ёсць патрэба. Вось дык сістэма падрыхтоўкі кадраў! Аб чым думаюць чыноўнікі, якія адказваюць за гэта? Замест таго каб наладзіць сістэму па падрыхтоўцы і перападрыхтоўцы спецыялістаў, адпавядаючых сучасным патрабаванням, яны павялічваюць армію тых, хто не можа ўладкавацца. Гэта ўжо не прагрэс, а рэгрэс.

Цяпер аб заробках. У названай ужо Нацыянальнай справаздачы падкрэсліваецца даволі нізкі іх узровень. За рысай беднасці амаль трэць насельніцтва краіны. Асабліва пакутуюць пенсіянеры, адзінокія маці, беспрацоўныя і часткова занятыя. Асноўнай прычынай беднасці спецыялісты называюць малыя заробкі.

Скажам, атрымаў чалавек сярэднюю зарплату (гэта недзе каля трохсот тысяч рублёў). На аплату камунальных паслуг, тэлефона і асвятлення трэба выкласці амаль палову атрыманай сумы. Што ж застаецца на харчаванне і вопратку для сям'і? Ды нейкія капейкі. А яшчэ ж чалавеку трэба і ў тэатр схадзіць, і газету пачытаць, і ў адпачынак з'ездзіць, і падарункі родным купіць... А грошай няма, адным словам, галеча.

Цікавы факт прыводзіцца ў той Нацыянальнай справаздачы. *"Па-ранейшаму застаецца нізкай доля аплаты працы ў валавым унутраным прадукце"*. Гэта значыць, што грошы ёсць, але на зарплату іх выдзяляюць надта мала. Куды ж ідуць асноўныя грашовыя патокі? На што трацяцца сродкі, заробленыя мускуламі і галавой працоўных? Вось пытанні, якія павінны хваляваць кожнага.

Тут мы ўжо падбіраемся да трэцяга складаемага годнага жыцця — да жадання працоўных адстойваць свае правы на яго, на добрыя заробкі. Што мы тут бачым? Тое, што асобныя калектывы і атрады працоўных не хочуць мірыцца з эксплуатацыяй іх чынавенствам. Нядаўна газеты пісалі пра галадоўку віцебскіх прадпрымальнікаў, іх падтрымалі страйкам бізнесмены іншых гарадоў. Не першы месяц дабіваюцца лепшых умоў працы і больш высокіх заробкаў работніцы Слонімскай ткацкай фабрыкі. Не так даўно яны дамагліся адстаўкі дырэктара гэтага прадпрыемства, не здольнага наладзіць як трэба вытворчасць.

Час ад часу паўстае пытанне аб незадаволенасці жыццём то там, то тут. Вось так — то там, то тут... Выступаюць у абарону сваіх правоў асобныя калектывы... Гэтыя выразы не толькі рэжуць слых, але і сведчаць, што ў большасці працаўнікоў краіны яшчэ не саспела жаданне пазмагацца за свае правы, за свае кроўна зробленыя грошы, якія вопытныя дзялкі ўмела ўводзяць у іх з-пад носа. Ці, гаворачы дакладна, яны пакуль не надта хочуць жыць годна. Ёсць шклянка кефіру і акраец хлеба — ну то і добра на гэтым. Пакуль грамадства ў палоне такой слепаты — лепшай долі яму не відаць.

Разам з тым, выступы то там, то тут сведчаць і аб тым, што частка грамадства ўжо прачынаецца і рашуча патрабуе аддаць ім сумленна зробленае. Сваімі акцыямі яны не толькі заяўляюць, што яны — людзі і хочуць жыць па-людску, але і абуджваюць сонных.

Ці пачуюць апошнія першых?

**Які заробак у нас і нашых суседзяў?**
*(Даныя за 2002 год)*

| Краіна | Сярэдні месячны заробак у доларах |
|---|---|
| Беларусь | 100 |
| Латвія | 230 |
| Чэхія | 400 |
| Польшча | 460 |

**Алесь ДРАБЧУК.**

ЖИЗНЬ КАК ЕСТЬ

# За что уволили?

*Прокуратура города Полоцка признала незаконным решение городского суда, который отказал в иске рабочему ОАО "Полоцк-Стекловолокно" Владимиру Черному. Член Свободного профсоюза Белорусского (СПБ) пытается восстановиться на работе после незаконного увольнения и истребовать у нанимателя компенсацию за вынужденный прогул.*

Напомним, что Владимир Черный был уволен 25 сентября 2003 года за якобы совершенное мелкое хищение. Однако 28 октября после проверки, проведенной прокуратурой города Полоцка, решение суда, которое привлекло рабочего к административной ответственности за хищение, было отменено. Прокуратура не нашла оснований для того, чтобы признать, что Владимир Черный совершал хищение. Впоследствии он был признан невиновным в совершении административного проступка, за которое его уволили.

После этого рабочий сразу же обратился в администрацию предприятия с заявлением о восстановлении на работе, что выглядело вполне логично: если хищения, за которое его уволили, не было, то и увольнение оказалось незаконным. Однако руководство предприятия отказалось восстановить Владимира на работе, поэтому члену СПБ вновь пришлось отстаивать свои права в суде.

Правда, 2 февраля Полоцкий суд отказал рабочему в иске к администрации ОАО "Полоцк-Стекловолокно" якобы из-за того, что Владимир Черный пропустил срок для обращения в суд. Вместе с тем городская прокуратура вынесла на это решение суда кассационный протест, заявив, что рабочим "предпринимались все возможные меры для отмены незаконного постановления". Таким образом, дело направлено на новое рассмотрение. Борьба члена СПБ за свои законные права продолжается.

*praca-by.info*

ДЫЯГНАЗ

# ...Ад СНІДу і наркотыкаў

*У Брэсцкай вобласці расце смяротнасць ад СНІДу.*

Як паведаміла намеснік кіраўніка абласнога цэнтра гігіены, эпідэміялогіі і грамадскага здароўя Людміла Рудая, усяго за час дыягностыкі ВІЧ-інфекцыі памерлі 26 жыхароў вобласці, 9 з іх — у 2003 годзе.

Паводле апошніх звестак, на Брэстчыне жыве 291 ВІЧ-інфіцыраваны, у 12 з іх дыягназ пастаўлены ў 2004 годзе. Першым у "чорным спісе" ідзе Пінск (127 чалавек), далей — Баранавічы (38 чалавек), Брэст (37) і Лунінецкі раён (25 чалавек). Адзіным раёнам Брэстчыны, дзе няма ні аднаго ВІЧ-пазітыўнага, застаецца Ганцавіцкі. Няма тут і наркаманаў.

Менавіта сумеснае ўвядзенне наркотыкаў з'яўляецца галоўнай прычынай заражэння — 77,4 працэнта выпадкаў інфіцыравання. У асноўным гэта людзі ва ўзросце 20-24 гадоў. У 2003 годзе, паводле слоў Л.Рудой, вырасла колькасць ВІЧ-інфіцыраваных ва ўзроставай групе 15-19 гадоў.

Ад ВІЧ-інфіцыраваных маці нарадзіліся 9 дзяцей. Паводле слоў Л.Рудой, апошнім часам адзначаецца рост выяўлення інфіцыраваных сярод цяжарных жанчын. Большасць з іх перарывае цяжарнасць, але некаторыя нараджаюць, спадзеючыся, што дзіця будзе здаровым.

Прагноз распаўсюджвання ВІЧ-інфекцыі на тэрыторыі вобласці застаецца неспрыяльным у сувязі з распаўсюджваннем наркаманіі. Сёння на дыспансерным і прафілактычным уліку знаходзяцца 1453 наркаманы. На працягу 2003 года наркалагічнай службай вобласці зноў узяты на ўлік 225 наркаманаў, у тым ліку 29 падлеткаў з эпізадычным ужываннем наркотыкаў. Актыўнае выяўленне наркаспажыўцоў адзначаецца цяпер і ў сельскіх раёнах — у Бярозаўскім, Маларыцкім, Лунінецкім і Пружанскім.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ.**



*Вяскоўцы садзяцца ў аўтобус, які ідзе ў Валожын.*

**Фота ByMedia.net**

ПРАТЭСТ

# Як у Гомелі прадпрымальнікі пікетавалі аблвыканкам

У мінулы панядзелак у Гомелі каля сотні прадпрымальнікаў Прудкоўскага рынку пікетавалі будынак аблвыканкама. Гэта хутчэй быў нават не пікет, а паход з чалабітнаю папераю.

У абласны выканаўчы камітэт прадпрымальнікі перадалі зварот з патрабаваннем адмяніць снежаньскае рашэнне Гомельскага гарвыканкама, паводле якога з 1 сакавіка на рынку прадпрымальнікі павінны ўстанавіць касавыя апараты.

Падобна, гэтыя самыя касавыя апараты для чыноўніцкага апарату сталі нейкім сродкам стварэння нервовасці ў асяродку прадпрымальнікаў. Між тым адпаведным Дэкрэтам даўно вызначана, што не мясцовыя органы улады, а выключна Міністэрства гандлю вызначае, дзе могуць быць устаноўлены апараты падсумавання.

Як вынікае з міністэрскай інструкцыі, на Прудкоўскім рынку і шэрагу ралетных месцаў на Цэнтральным рынку патрабаванне ўстаноўкі касавых апаратаў беспадстаўнае.

— Гэта чарговае выцісканне з нас грошай, — лічыць Людміла, прадпрымальніца Прудкоўскага рынку. — Рынак наш малады. Прыкладна 70 працэнтаў прадпрымальнікаў і без таго ледзьве трымаюцца на паверхні. Дадатковыя выдаткі вымусяць многіх пакінуць свае працоўныя месцы. Мы плацім падаткі, плацім за месцы, плацім у фонд сацыяльнай абароны. Улады, напэўна, думаюць, што нашы кішэні гумовыя. Калі гарадскія ўлады будуць пастаянна лазіць у нашу кішэню, то заўтра яна стане наогул пустою.

Прадпрымальнік Сяргей у сваю чаргу заявіў, што асабіста ён не супраць устаноўкі касавага апарата. "Я куплю гэты апарат за апошнія грошы, але пры ўмове, што з мяне не будуць патрабаваць фіксаванага падатку. Няхай з мяне патрабуюць працэнт ад той сумы, якая будзе выбіта за месяц гэтым самым касавым апаратам".

Абсурднасць сітуацыі ў дачыненні да прыдпрымальнікаў бачна нават сляпому. Разнастайнымі паборамі ўлады вымушаюць дробных гандляроў выцурвацца свайго занятку. Страціўшы працу на рынку, прадпрымальнікі вымушаны ісці ў цэнтр занятасці насельніцтва. Там ім выплачваюць грошы як беспрацоўным альбо прапаноўваюць займацца... прадпрымальніцтвам. Прычым выдзяляюць на гэта сродкі зноў-такі з бюджэту.

Усе згаданыя абставіны і вымусілі дробных прадпрымальнікаў ужо і Прудкоўскага рынка паставіць свае подпісы пад зваротам да абласнога выканаўчага камітэта.

Прымаючы чалабітную, загадчык аддзела работы са зваротамі грамадзян і прававога забеспячэння аблвыканкама Віталь Уткін цікавіўся: "А вы пералічвалі грошы на рэканструкцыю палаца Паскевіча-Румянцава?"

Калі прысутныя прадпрымальнікі патлумачылі чыноўніку, што яны, апрача падаткаў, здавалі грошы на навагодняе асвятленне вуліц, плацяць штомесячна за пагонны метр на рынку болей, чым за трохпакаёвую кватэру, Віталь Уткін паабяцаў, што выканкам разгледзіць зварот на працягу двух тыдняў.

Ужо ў калідоры аблвыканкама дэлегацыю прадпрымальнікаў заспеў старшыня камітэта прадпрымальніцтва і інвестыцый Юрый Кісялёў. Ён пераконваў прадпрымальнікаў вярнуцца на свае працоўныя месцы і паабяцаў, што адпаведны загад адносна працы без касавых апаратаў дырэкцыя рынку выдасць да канца працоўнага дня.

— Мінгандаль павінен сам вырашыць, дзе ставіць касавыя апараты, а дзе не. У нас гэта скінулі на абласны ўзровень, потым далей на ўзровень гаррайвыканкамаў. Патрэбна яшчэ шмат высілкаў, каб пераканаць чыноўнікаў, што яны не правы, — патлумачыў Юрый Кісялёў.

Тут жа начальнік грамадскай бяспекі УУС аблвыканкама, палкоўнік міліцыі Аляксандр Гаркоў папярэдзіў прадпрымальнікаў, што, калі яны не разыдуцца, акцыя пратэсту будзе разглядацца як правядзенне несанкцыянаванага мітынгу. "Людзі размаўляюць ля ўвахода ў будынак аблвыканкама. Гэта і ёсць мітынг", — літаральна так заявіў Гаркоў.

Прадпрымальнікі, перадаўшы зварот, разышліся. Аднак да канца працоўнага дня ніякі загад пра касавыя апараты на рынку не з'явіўся. Прадпрымальнікам дазволілі толькі ўносіць плату за гандлёвыя месцы без пені да 3 сакавіка. Паводле некаторых звестак, менавіта ў гэты дзень Гомельскі аблвыканкам павінен быў у чарговы раз разглядаць пытанне ўстаноўкі на рынках касавых апаратаў. Але пакуль ніякай інфармацыі няма.

Пару дзён таму з'явіўся загад дырэктара рынку аб тым, што ралетныя месцы трэба лічыць абасобленымі, а таму касавыя апараты ў іх не спатрэбяцца. Але тавары сямі груп будуць прадавацца праз касавыя апараты.

Якая рэакцыя прадпрымальнікаў? Сваё слова яны скажуць пасля свята 8 Сакавіка.

**Анатоль ГАТОЎЧЫЦ.**

*Гомель.*

КОЛОНКА ЮРИСТА

## Развод и квартира

**С мужем построили кооперативную квартиру. Выплачивали кредит вместе. Год назад развелись. Какие я имею права на данную квартиру?**

**Н.П. СОРОКИНА, г. Минск.**

В соответствии со статей 30 Жилищного кодекса Республики Беларусь члены семьи нанимателя обладают правом пользования жилым помещением наравне с нанимателем. При этом не имеет значения время развода между вами. Это значит, что если вы и ваш бывший муж прописаны в вашей квартире, то он пользуется всеми правами и несет все обязанности, вытекающие из договора найма наравне. К правам нанимателя и членов семьи, кроме права проживания и пользования всеми коммунальными удобствами, в частности, относится право прописывать на занимаемую площадь, т.е. в вашу квартиру супругу или детей.

Прописка вашего нового супруга возможна лишь с согласия вашего бывшего мужа и его брата (если он прописан постоянно, а не временно), но малолетние дети могут быть прописаны и без согласия бывшего мужа и брата. Ваш муж и вы можете также потребовать изменения договора найма, т.е. разделения лицевых счетов. Можете потребовать размена квартиры. При отсутствии вашего согласия на те или иные действия, ваш муж имеет право обращаться за разрешением спора в суд. Так же при отсутствии его согласия на те или иные действия, вы имеете право обращаться за разрешением спора в суд.

Кроме того, без вашего согласия он не сможет совершить ни одной сделки с вашей квартирой: ни приватизировать ее, ни подарить, ни продать, ни обменять. Однако следует помнить, что наряду с правами у него и у вас есть и обязанности. К ним относятся: участие в оплате коммунальных платежей, необходимость соблюдать правила пользования жильем, использовать жилое помещение по назначению, не создавать неудобства при совместном проживании.

## Выселение из служебного помещения

**Я проработала на предприятии 16 лет. Имеют ли право меня выселить из занимаемого мною служебного помещения, которое я получила в связи с работой на данном предприятии?**

**Л.И.Дюкова, г. Пинск.**

В соответствии с Жилищным кодексом Республики Беларусь и постановлением Пленума Верховного суда Республики Беларусь от 3.03.2000г. № 3, граждане, проживающие в общежитиях и служебных жилых помещениях, в случае их увольнения по собственному желанию подлежат выселению из занимаемых ими жилых помещений при отказе возвратиться на прежнее место работы, в связи с которой им было предоставлено жилое помещение.

Если в судебном заседании ответчик(при разрешении спора в судебном порядке), проживавший до увольнения в служебном жилом помещении, заявил о желании вернуться на работу, это заявление может быть учтено судом только в том случае, когда возможно предоставление ему прежней или другой работы, выполнение которой будет связано с проживанием в служебном жилом помещении. Наниматель не может быть выселен из служебного жилого помещения, если кто-либо из членов его семьи состоит в трудовых отношениях с наймодателем и по характеру работы ему может быть предоставлено служебное жилое помещение.

В силу ч.2 ст.96 ЖК отдельные категории граждан, проживающих в служебных жилых помещениях, не подлежат выселению без предоставления другого жилого помещения.

Из служебного жилого помещения не могут быть выселены без предоставления другого жилого помещения:

— граждане, ставшие инвалидами вследствие ранения, контузии, увечья, профессионального заболевания, полученных при исполнении производственных или служебных обязанностей;

— граждане, проработавшие на предприятии, в учреждении, организации, предоставивших им служебное жилое помещение, не менее десяти лет;

— граждане, уволенные в связи с ликвидацией предприятия, учреждения, организации либо по сокращению численности или штата работников;

— семья умершего работника, а также погибшего военнослужащего, которому было предоставлено служебное жилое помещение;

— граждане, заболевшие и перенесшие лучевую болезнь, вызванную результатами катастрофы на Чернобыльской АЭС, а также инвалиды, в отношении которых установлена причинная связь наступившей инвалидности с катастрофой на Чернобыльской АЭС;

— инвалиды войны и другие инвалиды из числа военнослужащих, ставшие ими вследствие ранения, контузии или увечья, полученных при защите бывшего СССР, Республики Беларусь или при исполнении иных обязанностей военной службы либо вследствие заболевания, связанного с пребыванием на фронте;

— участники Великой Отечественной войны, пребывавшие в составе действующей армии;

— воины-интернационалисты, принимавшие участие в боевых действиях;

— семьи военнослужащих и партизан, погибших или пропавших без вести при защите бывшего СССР, Республики Беларусь или при исполнении иных обязанностей военной службы;

— инвалиды I и II группы;

— граждане, имеющие право на трудовую пенсию по возрасту (в том числе на льготных условиях), а также за выслугу лет.

Также не подлежат выселению из служебных жилых помещений по основаниям прекращения трудовых отношений граждане, уволившиеся до отнесения занимаемых жилых помещений к числу служебных.

ЧИТАТЕЛЬ ПРОДОЛЖАЕТ РАЗГОВОР

# Жертвы

Прочитал материал Людмилы Грязновой "Космонавты" и долго не мог понять, почему она называет услышанный разговор пенсионерок ("Надо посадить всех пенсионеров на космический корабль и отправить куда-нибудь подальше. Все равно мы никому не нужны - ни детям, ни государству"), дикой мыслью? Почему автор публикаций удивляется такому размышлению: "Вроде в стране нет военных действий и катастроф, не надо все отдавать для фронта и для победы, а столько народа, прежде всего пенсионеров, поставлены на грань выживания". Разве у нас на грани выживания только эта категория граждан?

А что же тогда говорить инвалидам или тем, кто получает по уходу за прикованным к постели или инвалидной коляске человеком 27.000 рублей пособия, без права работать? А какие мысли могут быть у того же прикованного к инвалидной коляске или постели человека, когда государство предоставляет такому человеку льготу в виде бесплатного проезда в транспорте? Или 50%-ную скидку на жильё, телефон, электричество только в том случае, если таковой проживает без трудоспособных членов семьи? Как часто мы видим людей в инвалидных колясках в общественном транспорте или, как долго сможет попользоваться вышеупомянутыми льготами на коммунальные услуги человек, полностью физически зависимый от постоянной посторонней помощи, если он будет проживать один или без трудоспособных членов семьи?

А какие мысли могут быть у человека, если государство оценивает содержание пенсионера или инвалида на платной основе в Доме-интернате более чем в 400.000 рублей ежемесячно? Что, в Домах-интернатах эти люди пьют и едят в четыре раза больше, чем дома?

А какие мысли у того, кто сразу после получения высшего образования понял, что не может найти работы вообще? А если и есть что, то уровня оплаты их труда не хватит даже на полноценное питание?

А что мы сегодня можем увидеть в квартирах пенсионеров или, если поставить вопрос более конкретно, как сегодня государственные службы социальной помощи определяют степень нуждаемости наших граждан? Оказывается, не последнюю и весьма существенную роль в таких оценках имеет так называемое визуальное обследование жилья нуждающегося в социальной помощи.

А то что у нас нет военных действий в прямом смысле этого слова, то, слава Богу, это хорошо. Но почему под понятием "военные действия" нужно понимать эти действия в прямом смысле слова? Почему понятие "катастрофа" должно ассоциироваться в умах наших граждан, только с какими-то глобальными природными или техногенными катаклизмами? Разве обрушившаяся на головы детей крыша школьного спортзала это не катастрофа? А грязная, гнилая и мёрзлая, но упакованная "видимо, для нашего с вами удобства" в полиэтиленовые пакеты картошка в государственных магазинах, где из шести клубней к употреблению в пищу пригодна одна, максимум две, разве это не катастрофа? А помните слова президента, когда его показывали на месте той самой трагедии, "таким строителям нужно выкручивать руки"? А теперь посмотрите на кривые стены, потолки и полы своих квартир, посмотрите на кривые, сделанные из недосушенной древесины окна и двери. Один из моих знакомых купил два года назад квартиру в только что сданном доме. Отодрав наличники на одной из дверных коробок внутри квартиры, он обнаружил между дверной коробкой и стеной пустые бутылки от дешёвого "чернила", и, как ни странно, это его не удивило. Мы гадим в подъездах своих домов, превращая их нередко в общественные туалеты, разве это не катастрофа? А ежегодные посевные и уборочные кампании, с их воровством, приписками и откровенным очковтирательством чиновников, разве это не фронт с его победами и поражениями? Неужели для того, чтобы понять, что самая страшная катастрофа сидит в наших мозгах, нам нужны потопы или война, в прямом смысле этого слова? Так что же дикого, по мнению Людмилы Грязновой, в том, что пенсионеры или инвалиды понимают, что они никому не нужны? Может быть, это и не дикость, а осознанная необходимость? Ведь в условиях выживания, как и на войне, без жертв не обойтись, и каждый сам решает, что принести в жертву на алтарь личного, нередко сомнительного, но благополучия.

**Ричард ПАВЛОВСКИЙ.**

ДЕМОКРАТИЯ ПО-БЕЛОРУССКИ

# Не разрешили...

*Захотели могилевские ребята-демократы излить душу народу, высказать свои соображения насчет политики власти, перемен от нее потребовать. Слово да дело, написали заявку в горисполком и попросили дать разрешение на проведение митинга. Объяснили — будем протестовать против роста цен на коммунальные услуги, увеличения количества безработных, снижения жизненного уровня народа, ухудшения правового положения предпринимателей. А чтобы власть сильно не ерепенилась, местом проведения митинга выбрали площадку возле Дома культуры искусственного волокна, ту самую, которую разрешили власти. Вроде минского "Бангалора".*

Но не знали председатель Свободного профсоюза частных предпринимателей Могилева Сергей Фомин, руководители местных партийных организаций БНФ И ОГП Григорий Костусев и Владимир Шанцев (именно они были заявителями митинга), что их ждет отказ. Ответ горисполкома настолько своеобразен, что стоит его процитировать целиком.

Отцы города пишут: *"Могилевский горисполком не может рассмотреть ваше заявление о проведении митинга из-за отсутствия полных сведений об организаторах, предусмотренных статьей 5 Закона "О собраниях, митингах, уличных шествиях, демонстрациях и пикетировании"*. Надо сказать, что все три организатора митинга успели засветиться в коридорах власти. Жаловались, писали письма в горисполком, ходили на прием. Надо же, отцы города не знали, что они белорусские граждане и что они уже давно достигли совершеннолетнего возраста. Как и не знали, что соответствующий закон в новой редакции с изменениями и дополнениями теперь называется "О массовых мероприятиях в Республике Беларусь".

В письме в горисполком Владимир Шанцев напоминает, что они указали: *"цель, форму проведения мероприятия; время его начала и окончания; предполагаемое количество участников; фамилии, имена, отчества организаторов, их место жительства и работы; меры по обеспечению общественного порядка и безопасности при проведении мероприятия; дата подачи заявления"*. Однако заявление просто не рассматривали — то ли времени не было, то ли сил просто не хватило. Вон сколько забот на государственные плечи ложится! А может, отцы города вспомнили, что все три организатора митинга собираются баллотироваться в Палату представителей и лишняя популярность им повредит?

Однако факт остается фактом — отказали, не взглянув даже в шестую статью соответствующего законодательства. Демократы шутят: может, скоро придется просить у горисполкома разрешения сходить в туалет? Чем черт не шутит! А пока братья-демократы собираются опротестовывать решение власти вплоть до обращения в прокуратуру, цены растут. Недавно вот подорожало электричество...

**Александр СЕРДЮКОВ.**

